№ 7 (123). Вільня, 5 Сакавіка 1938 г. Год X.

# Шлях Моладзі

# Šlach Moładzi

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

## Месяц Сакавік—месяцам пазнаньня мінуўшчыны Беларускага Народу

Сакавік. — Зіма збліжаецца да канца. Сонца сьвеціць штораз даўжэй і прыгравае мацней. Сьнег памалу злазіць з горкаў, а ледзяныя аковы аслабляюцца. Вада аднак і гразь ствараюць на вёсцы бездарожжа і не пазваляюць людзям яшчэ выйсьці ў поле да працы. Час праходзіць часта бескарысна, пры картах або на печы. І хоць ужо вясна, аднак бываюць доўгія сумныя вечары.

Сакавік. — Дзіўны месяц. Прынёс ён нам многа гістарычных датаў. — 2-га сакавіка 1881 году, пасьля забойства расейскага цара Александра II, трагічна згінуў вялікі і сьмелы беларускі рэвалюцыянэр народнік Ігнат Грынявіцкі. 10-га сакавіка 1864 г на расейскай царскай шыбеніцы ў Вільні перарвана было маладое жыцьцё слаўнага беларускага паўстанца Кастуся Каліноўскага. 25-га сакавіка 1918 году Беларусь была абвешчаная Незалежным Гаспадарствам. 18 га сакавіка 1921 г. — Рыскі Трактат падзяліў землі заселеныя Беларусамі. 8-га сакавіка 1928 году памёр вялікі беларускі патрыёт і дэмакрат Пётра Крэчэўскі — апошні Старшыня Рады Беларускае Народнае Рэспублікі.

Сакавік — паўтараем — сапраўды багаты вялікімі гістарычнымі беларускімі датамі.

Дзеля гэтага месяц сакавік павінны мы пасьвяціць пазнаньню свае мінуўшчыны — мінуўшчыны Беларускага Народу — Беларускае Гісторыі. Зрабіць гэта трэба сёлета і раз на заўсёды, на кожны год. Гэтым ушануем мы вялікі сёлетні беларускі юбілей — 100-я ўгодкі нараджэньня Кастуся Каліноўскага, першага змагара за самастойнасьць Беларусі, за лепшую долю Народу, а таксама й іншыя нашыя нацыянальныя і культурныя юбілеі.

Ворагі нашыя вельмі часта робяць нам закіды, што Беларусы ня маюць свае гісторыі і культуры. На такія безпадстаўныя закіды кожны беларус павінен мець гатовы адказ. Але каб адказаць, каб запярэчыць няпраўду, трэба знаць праўду — трэба знаць добра сваю гісторыю, а прынамся найважнейшыя яе мамэнты.

Кожны беларус павінен ведаць, што Беларусы жылі калісь самастойна, незалежна, сваім беларускім жыцьцём; што нашая беларуская мова была мовай дыплёматаў, што ёю гаварылі ня толькі сяляне, але духоўнікі, князі і каралі, каторыя былі нават і на польскіх тронах. Пабеларуску пісаліся законы. Беларусы праз свайго д-ра Фр. Скарыну і ягоных беларускіх наступнікаў былі першымі пашыральнікамі друкарства на ўсходзе Эўропы. З нашага краю выйшлі вялікія пісьменьнікі — Адам Міцкевіч, Дастаеўскі, слаўныя кампазытары — Глінка, Манюшка і шмат іншых выдатных людзей. Беларусы ў асобах Ігната Грынявіцкага і Кастуся Каліноўскага былі ў першых радох змагароў за свабоду паняволеных расейскімі царамі народаў. Беларусы, падобна як і іншыя паняволеныя Расеяй народы, у час вялікае рэвалюцыі ў 1917 годзе прыступалі ўжо да будоўніцтва свайго самастойнага адроджанага гаспадарства. Кожны беларус павінен так-жа ведаць, што яму нясло сваё гаспадарства і чаму яно не змагло паўстаць.

Як-жа ўсяго гэтага даведацца? А зусім проста. Трэба толькі крыху ахвоты і добрае волі. Трэба пазнаць хоць-бы такія кніжкі: *„Кароткі нарыс гісторыі Беларусі“*—прафэсара У. Ігнатоўскага, *„Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня“* і *„Kastuś Kalinoŭski, „Mužyckaja Praŭda“ i ideja niezaležnaści Biełarusi“**)— *Ад. Станкевіча.*

Гэтыя кніжкі даюць абраз нашае гісторыі і доказ, што Беларусы ня былі і ня ёсьць найгоршымі і найцямнейшымі, і што кепска робіць той, хто выракаецца свайго беларускага імя.

Словам, кожную вольную хвіліну ў месяцы сакавіку выкарыстайма дзеля пазнаньня Беларускае Гісторыі і абзнаямленьня з ею людзей нясьведамых. Там, дзе будзе магчымасьць, трэба наладзіць адпаведныя лекцыі, вечары, дыскусіі, або прынамсі супольнае чытаньне беларускае літаратуры з галіны гісторыі.

Пакуль выйдзем з плугамі ў поле ніву родную нанова араць, пазнавайма сваю мінуўшчыну, сваю гісторыю. **Я. Н.**

*) Усе тры гэтыя кніжкі можна выпісаць за 3 зл. з Беларускай Кнігарні „Пагоня“—Вільня, Завальная 1—2.

# Šved ab Biełarusach

Viasnoj 1937 h.. jak my ŭžo ŭ svaim časie pisali, Vilenskich Biełarusaŭ advіedaŭ švedzki (z Finlandyi) daśledčyk narodaŭ uschodniaj Eŭropy Dr. B. Colliander. Hety vučony zdaŭna ŭžo cikaviŭsia biełaruskaj spravaj i ŭ Vilniu pryjaždžaŭ tolki, kab spraŭdzić svaje informacyi i pryhledzicca da biełaruskaha žyćcia na miescy. U rezultacie ŭsiaho hetaha Dr. Colliander napisaŭ ab Biełarusach bolšuju navukovuju raspravu, čaść z jakoj, u formie vialikaha artykułu p. n. „**Vitryssarna, Europas minst kända nation**" (Biełarusy, najmienš viedamy narod Eŭropy) nadrukavaŭ anahdaj pieradavy švedzki štodzieńnik u Finlandyi „**Abo Underrättelser**" (№ 48, z 19.II. 1938). Jość heta davoli abšyrny pierahlad padziejaŭ Biełarusi ad samaha zarańnia historyi da siańniašnich dzion: kraj, narod i jaho rassialeńnie, kultura ahułam, relihija, važniejšyja mamenty z historyi Biełarusi i litaratury.

Jak bačym, pamima ŭsich pieraškodaŭ z boku niapryjaznych da nas čyńnikaŭ, biełaruskaje pytańnie ŭsiož znachodzić sabie darohu ŭ šyroki śviet, spatykajučysia tam z pryjaznym vodhukam. A najcikaviejšaje toje, što zahranica pačała mocna cikavicca Biełarusami jakraz tady, kali nie z svaje viny pieražyvajuć jany adzin z najciažejšych dahetul peryjadaŭ svajho isnavańnia. U hetkuju paru kožny pryjazny hołas darahi nam dvojčy: jon pakazvaje, što jdziom pravilnaj darohaj i što na hetaj darozie budzie nam pryjacielem kožny, chto nia maje suproć nas schavanych dumak.

A. K.

# *Полацак*

*Над рэчанькаю Палотай*
*Стары Полацак стаіць*
*І задумана — з дрымотай*
*Ў люстра рэчачкі глядзіць.*

*Ўспамінае з старым ладам*
*Ў даўнасьць збегшыя часы,*
*Калі быў ён стольным градам*
*Маладой Беларусі.*

*Меў харомы і сьвятліцы,*
*Жыў у ім Вялікі Князь,*
*І гасьцей з-паза граніцы*
*Ён прыймаў не адзін раз.*

*У трывожныя хвіліны*
*Пралятаў кліч баявы:*
*Сабіраліся дружыны*
*І гудзеў звон вечавы.*

*Правёў жыцьцё маладое*
*Ў ім друкар наш Скарына.—*
*Ўспамінай сваё былое,*
*Беларуска Старана!*

1938. *А. ЖУК.*

*Грамадзяне!*

*Прысылайце ахвяры на дапамаговы фонд беларускай вучнёўскай незаможнай а здольнай моладзі на адрыс: Red. „Šlachu Moładzi" .— Wilno, Zavalnaja 1.*

# Як паўстае Палярная Зара?

Апошнім часам многа гаворыцца і пішыцца ў газэтах аб Палярнай Зары, каторай харастово можна было ня так даўно падзіўляць у Эўропе і ў сувязі з каторай людзі ў нас пускаюць весткі аб розных страшных падзеях. Вось-жа цікава ад чаго яна паўстае?

Вучоныя дасьледзілі, што Палярная Зара паўстае з прычыны сільнага прыцяганьня электрычных сонечных праменьняў (касулькаў) магнэтычнай сілай зямлі. Сонечныя касулькі, дайшоўшы да вышэйшых пластоў атмосфэры, пранікаюць скрозь іх, даючы пры гэтым вялікае прыгожае каляровае сьвятло ў форме Палярнай Зары (вялікай чырвані на паўночнай частцы неба).

Навукай сьцьверджана, што ў некаторых колькінаццацігадовых пэрыядах часу Палярная Зара паяўляецца выняткава вельмі часта і прыгэтым сьвеціць ад гадзіны 19 да 24. Да таго цікава, што ў гэтых пэрыядах магнэтычная сіла зямлі так дзеіць на электромагнэтычныя касулі сонца, што іх сьвятло падае на тую часьць зямной кулі, на каторай пануе ноч.

Палярная зара даказвае, што сонешныя праменьні падаюць на зямлю ня ў простых лініях, але пад дзеяньнем зямнога магнэсу і іншых магнэтычных сілаў выкрыўляюцца, асьвячаючы гэткім чынам прасторы беспасярэдна неасьвечаныя.

# У тых, што праз холад і голад ідуць да сьвятла

Вільня была ў абоймах сільнага марозу. Ня гледзячы на гэта, задумаў я адведаць сваіх „старых" знаёмых, якія аднак па веку зусім не старыя, а маладняк. Незадоўга стукаюся ў іхнія дзьверы. Уваходжу. Вітаюся з гаспадаром памешчаньня — былым старшым фэльчарам, сучасным дробным эмэрытам, які адразу заяўляе мне, што старэйшых хлапцоў — ягоных лёкатараў, а маіх знаёмых — яшчэ няма, ёсьць толькі двох малодшых. Але хутка — кажа — папрыходзяць усе. Тымчасам прысядаю разам з гаспадаром у яго праходным пакоі.

Былы фэльчар гаворыць мне штосьці аб пагодзе, аб холадзе, аб унівэрсытэцкіх часох, калі ён вучыўся, а пасьля пераходзіць да „сваіх хлапцоў" — гэта значыць 6-ці вучняў-сублёкатараў, каторыя займаюць наступны пакой. Чатырох з іх — гэта вучні першае клясы беларускае гімназіяльнае філіі, якія міма стараньняў не знайшлі сабе месца ў інтэрнаце. Два-ж старэйшыя хлапцы — гэта былыя вучні Беларускае Гімназіі. Адзін з іх Міша — вучыцца цяпер у Тэхнічнай Школе. Мае на вёсцы матку, каторая час-ад-часу прысылае яму пасылкі. Львіную-ж ролю ўтрыманьня пакрывае сам, зарабляючы на лекцыях. Ня лёгка прыходзіцца яму навука. Кожны год здабывае проста штурмам. Другі-ж — Янка ходзіць на вячэрнія гандлёвыя курсы. У сваёй вёсцы мае братоў, але тыя самыя ледзь пражываюць; цесна зрабілася на гаспадарцы і ён, маючы за сабою шэсьць кляс гімназіі, пастанавіў далей здабываць навуку, астаючыся ў Вільні. З восені меў фізычную працу пры будове дому. Працаваў у голадзе, на адным кусочку чорнага хлеба, або сухара, як вол гараваў, па 8-м гадзін штодзень. Пасьля крыху палепшала, і калі да хлеба дастаў яшчэ шмальцу — чуўся шчасьлівейшым. Цяпер апроч вячэрніх курсаў ходзіць у адну ўстанову і там крыху зарабляе парадкуючы кніжкі.

Аб такіх „хлапцох" гаварылі мы ўдвох з гаспадаром.

— Маю з імі ня мала клопатаў — казаў гаспадар. Не скажу... Яны ўсе добрыя хлопцы. Спакойныя, ціхія. Але што-ж? — І ў гэтым — „што-ж?" здавалася крыецца цэлая трагэдыя.

# Čym dla nas vialiki, blizki i darahi Kastuś Kalinoŭski?

Na heta pytańnie adkazvaje ŭ № 4 (152) siol. „Chryścijanskaja Dumka“ ŭ artykule „Kastuś Kalinoŭski — Vialiki Syn Biełaruskaha Narodu“ nastupnymi, karotkimi, ale syntetyčnymi punktami: —

1) Jon byŭ Biełarusam,— z biełaruskim narodam byŭ zaadno, dla jaho paśviaciŭ usie svaje siły i žyćcio addaŭ.



**Kastuś Kalinoŭski namaŭlaje sialan iści ŭ paŭstańnie praciŭ cara, kab zdabyć sabie svabodu.**

Abraz P. Siarhiejeviča.

2) Vydavaŭ pieršuju biełaruskuju hazetku „Mužyckaja Praŭda“.

3) Kalinoŭski stajaŭ za toje, kab Biełarusy mieli svaje biełaruskija škoły.

4) Baroŭsia nia tolki praciŭ carskaj niavoli, ale tak-ža i praciŭ panščyny.

5) Žadaŭ dla Biełaruskaha narodu samastojnaści palityčnaj u federacyjnaj łučnaści z Polščaj, razumiejučy henu federacyju, jak sajuz volnych i samastojnych narodaŭ.

6) Sioleta prypadała 75 hadoŭ polskaha paŭstańnia 1863 h. Polskaje hramadzianstva, śviatkujučy hetyja histaryčnyja ŭhodki, kala asoby Vialikaha Kastusia Kalinoŭskaha prachodziła maŭčkom, jakby vyrakajučysia jaho i pakidajučy jaho nam Biełarusam, jak našu nacyjanalnuju ŭłasnaść i hordaść. —

Tak, Kastuś Kalinoŭski — heta sapraŭdy, Vialiki i Słaŭny Syn Biełaruskaha Narodu, jaki pavinien być blizkim kožnamu biełaruskamu sercu, a asabliva-ž biełaruskaj moładzi.

---

— Малодшых я ўзяў на цэлае ўтрыманьне. Плацяць за ўсё, не выключаючы і кватэры, па 25 зл. Усё трэба купіць, а ўсё дарагое і мы на іх за 2 месяцы панесьлі страту больш 100 зл.

— Дык чаму-ж Вы далей іх утрымліваеце?

— Мы людзі ганаровыя... Ня йдзе нам пра заработак. Мішка і Янка плацяць за пакой па 7 зл., але ратамі. Мішка калі прынясе 2, а калі залатоўку, і так цэдзіць. З „першым“ хочам яму адмовіць памешчаньне. — Жаліцца гаспадар на лёс, адначасна падчырківаючы сваю інтэлігенцкую шляхотнасьць. А пара з вуснаў, як махорачны дым пыхціць, застываючы ў халодным паветры.

Прыходзіць Міша і я разам з ім праходжу ў іх „салён.“ Пакой іх прадстаўляе сабой малы, нявыгадны інтэрнат. Ён зьяўляецца для хлапцоў спальняй, сталоўкай і месцам для адрабляньня лекцыяў. Паветра ў пакоі: халоднае, сырое і ў дадатак мае запах перапоўненай інтэрнацкай спальні. Хоць надварэ яшчэ зусім відна—ў пакоі змрок. Ды агулам тут ніколі няма нармальнага сьвету. Два вялікія вакны ўпіраюцца ў мур, а над імі праходзяць сходы на вышэйшы паверх (этаж). Каля процілеглай вокнам сьцяны стаяць ложкі. На сярэдзіне пакою стол, пры якім сільна натужваючы зрок, два першаклясістыя адраблялі лекцыі.

Па вонкавым выглядзе, у асобе Мішы цяжка пазнаць вучня Тэхнічнае Школы. Простыя грамоздкія, з грубога раменьня чаравікі, хутчэй прыпаміналі чаравікі чорнарабочага, чым вучня. Абношанае вясьнянае пальто і летняя кепка далёкія ад уніформу тэхнічнае школы. Яго паважна-задумчывы і бледны твар, з лёгкай сіньню пад вачыма, цяжкім жыцьцём дапасованы да „уніформу“ штурмавіка сьвятла. Але ў сваім таварыстве Міша любіць і жартаваць. Любіць кінуць ня зусім нават вучнёўскі жарт быццам хочучы гэтым падчыркнуць сваю работніцкасьць і жыцьцёвую дасьпеласьць.

— Чаму на цябе так уеўся гаспадар —пытаюся ў Мішы.

— А што ён мае рабіць. Кожны дзень да яго прыходзяць даўжнікі, дык ён у сваю чаргу насядае на нас. Прынамся мае на кім сагнаць злосьць.

Хутка зьявіўся і Янка. А Мішка выходзіў на зарабковыя лекцыі, дык разам з ім пакінуў і я маленькі беларускі інтэрнат.

# „Bunt rojstów“

„Bunt rojstów“ — heta vymoŭny nazoŭ knižki, u jakoj sabrany cely rad paasobnych artykułaŭ ab doli i niadoli našaha kraju. Aŭtoram ich jość Józef Mackiewicz — brat viedamaha polskaha publicysta, redaktara „Słowa“ Cat—Mackieviča, katory ŭ Biełarusaŭ, svaimi palityčnymi, planami zdabyŭ užo nazoŭ asymilatara. Jazep Mackievič svaich adnosinaŭ da Biełarusaŭ, da spravy biełaruskaha adradžeńnia faktyčna jšče nia vyjaviŭ. Treba adnak skazać, što choć jon ad abšarnickaje ideolohii „Słowa“ nie adyjšoŭ i sprava ziamielnaje reformy jamu vielmi dalokaja, to adnak u jaho prajaŭlajecca, jasna — svomym jamu sposabam, luboŭ da našaha kraju, da narodu i da praŭdy. Jak publicyst, J. Mackievič maje vialikuju cyvilnuju advahu i bystraje voka; jak litarat, — biazumoŭna, nie mały talent Jahonyja artykuły sabranyja ŭ „Buncie rojstaŭ“, pisanyja ŭ stylu repartarovym, ažyŭlenyja pryhožymi ilustracyjami, lohkija, rezkija i cikavyja. Pry tym časta možna spatkać abrazy ŭniatyja sapraŭdy pamastacku.

Pieršy raździeł „Buntu rojstaŭ“ pryśviačany sektanctvu, pryčynu pašyreńnia jakoha J. M. bačyć pieradusim u matarjalnaj nendzy. Spaściaroha heta na naš pahlad nia zusim pravilnaja. Pryčynaŭ raźvićcia sektanstva chutčej treba šukać u duchovym žyćci našaha narodu. Chryścijanstva ŭ našym krai, ani ŭ formie Pravasłaŭja, ani Katalictva nie zapuściła hłybokich kareńniaŭ. Pašyralniki-ž jaho, apranajučy chryścijanskuju navuku ŭ čužuju dla našaha narodu vopratku i časta vykarystyvajučy jaje dla metaŭ ničoha supolnaha z relihijaj nia majučych, padarvali ŭ narodzie, jak svoj asabisty aŭtorytet, tak i aŭtorytet pradstaŭlanych saboju relihijnych ustanovaŭ. I dziela taho, u mieru ŭzrostu śviedamaści i kultury paŭstaje bunt dušy. Narod adčuvajučy, što nia ŭsio ŭparadku, imkniecca da samaj krynicy adviečnaje Praŭdy — da Śviatoha Piśma. Zhetul takoje zacikaŭleńnie Evanelijaj i pavodžańnie roznych „daśledčykaŭ“ jaje. Ale jznoŭ, ludzi našy nia majučy navat Śv. Piśma ŭ movie dla siabie zrazumiełaj, z naležnymi kamentarami, a čytajučy jaho ci słuchajučy ŭ movach čužych, nie razumiejuć jaho i papadajuć u herezuju i sekty, jakija ŭściaž razmnažajucca. Heta,biazumoŭna, jość najvyšejšy nakaz, kab jak katalickaje, tak i pravasłaŭnaje duchavienstva narešcie rašyłasia Navuku Chrystovuju vyjaśniać Biełaruskamu Narodu ŭ jaho rodnaj i zrazumiełaj jamu biełaruskaj movie i, kab pracavała pieradusim dziela pahłybleńnia i adradžeńnia jahonaje viery.

Dalejšym i najbolš cikavym dla Biełarusaŭ raździełam „Buntu rojstaŭ“ jość „Bunt Naračy“. Tut J. M. daŭ žyvy i mahutny abraz zmahańnia naračanskich rybakoŭ u 1936 hodzie za pravy da hetaha voziera. Tut pakazaŭ J. Mackievič, što biełaruskija sialanie, vyviedzianyja z ciarplivaści, umiejuć być stojkimi i damahacca taho, što im naležycca... „Bunt Naračy“ ŭ biełaruskaj litaratury apiajaŭ užo Maksim Tank u svajej paemie „Narač“. Adnak jašče nie adzin biełaruski litarat budzie zahladać u knižku Jazepa Mackieviča, jak u dakumant, u katorym znajdzie mnoha cennaha mataryjału.

Nia mienšym dakumantam dla Biełarusaŭ jość tak-ža addziely: „Padarož na poŭnač“, jaki pryśviačany spravie budovy čyhunki ŭ našym kraju i partovaj prystani ŭ Drui, a taksama „Ŭpłaŭ praz Paleśsie“, u jakim śćvierdžana halita i zaniedbańnie.

Ahułam havoračy, knižka „Bunt rojstów“ dla Biełarusaŭ jość dakumantam času. Asabliva-ž u joj dastajecca administracyjnym ułaдam za ichnija nie matčynyja adnosiny da hetych ziamiel.

Jazep Mackievič, adrožnivajecca ad svajho brata Cat'a i tym, što jon nie ŭciakaje ad słova „biełaruski“, „biełarus“ i ŭ jahonaj knižcy znachodzim nia raz celyja bačyny biełaruskich sialanskich hutarak. Nia hledziačy na heta, J. M. nidzie ŭ „Buncie rojstaŭ“ ničoha nia ŭspomniŭ ab biełaruskim adradženskim ruchu, z prajavami katoraha, u časie svaich raźjezdaŭ pa krai, musiŭ jon nia raz spatkacca. I biełarusu, pa pračytańni „Buntu rojstaŭ“, adrazu nasoŭvajecca ру-

---

На вуліцы марозны вецер падганяў людзей, ружовіў шчокі і шчыпаў за вушы. Толькі паны ў добрых футрах марудзілі, выказваючы свае, пагардлівыя адносіны да холаду. Людзі ў вясьнянай модзе то тут, то там кантралявалі самапачуцьцё вушэй і быстра ўвіхаліся па хадніку адзін перад другім.

Пад уражаньнем „малога інтэрнату“ ў галаве маей перасоўваліся фатаграфіі — ўспаміны з нядолі нашай маладой інтэлігенцыі, выйшаўшай з незаможных сем'яў. Фатаграфіі сьвежыя.

*Пятро.* Скончыў 6 кляс гімназіі. Далей вучыцца ня можа. Галіта на вёсцы прыгнала яго йзноў у Вільню. Хоча як-небудзь устроіцца ў горадзе. Любіць пачытаць кніжку, газэту, а на вёсцы глуш. Аблазіў усё і ўсіх, з працай аднак трудна. Летам крыху працаваў фізычна. Цяпер абівае парогі Пасрэдніцтва Працы, хіляецца ў калейках безработных і ніяк ня можа дабіцца лепшага жыцьця, якое раўнялася-б хаця-б двум талеркам гарохавай зупы.

*Аднойчы ў беларускага студэнта..* — Але-ж ты, брат, і пахудаў за гэты час — зварочваюся да яго.

— Нічога дзіўнага. — адказвае. Ты калісьці мне гаварыў, што некаторыя ў Вільні пражываюць у дзень ня больш 50 гр. Я цяпер пабіў рэкорд. Вось ужо пяты дзень зьядаю толькі паўкіля чорнага хлеба з кіпятком. Больш нічога. Не магу дачакацца пасылкі. Працаваць-жа трэба шмат.

Узноў-жа, беларуская студэнтка з дабрадушнай усьмешкай на вуснах хваліцца:

— Я сягодня спала да дзесятай гадзіны.

— Чаму так позна? — пытаюся.

— У ложку есьці ня так хочацца, эканомней.

Выглядае на жарт, а тымчасам гэта праўдзівая рэчаістасьць.

На вуліцы вецер яшчэ мацней пачаў пранізваць холадам, падыймаючы з сабою сьнегавую бель.

Эх, і не зайздросная доля — думаю — таго, хто гэткай пагодай змушаны вандраваць па польных дарогах, мясіць нованамеценыя гурбы сьнегу, наперакор завеі. Ногі грузнуць у сьнезе і ня хочуць рушыцца, а стаць ня можна. Голас сьведамасьці прыказвае:

— Не адпачывай — замерзьнеш! — Дык, наперад, да мэты!...

К.

tańnie, čamu najvažniejšuju spravu J. M. abminuŭ moŭčki? Ale jość užo adkaz i na heta. Znachodzim jaho ŭ № 5 (z 25.II.38) časapisu „Polityka", dzie pad charakternym nazovam „Chaty na bieła — dušy na čyrvona", apublikavana vielmi cikavaja hutarka z J. Mackievičam, jakaja abviaščaje, što ŭ biełaruskaj spravie J. M. pryhataŭlaje vialikija revelacyi. Ustrymlivajuć-ža jaho cenzuralnyja abstaviny... U „Palitycy", miž inšym, J. M. kaža: „Faktam jość, što cely kraj (h. zv. Kresy—J. N.), za vyniatkam dvaroŭ, asadnikaŭ, šlachockich zaściankoŭ, polskaha (čytaj: spolščanaha—J. N) abšaru kala Vilni i hminaŭ litoŭskich — havoryć pabiełarusku. **Siańnia achvatniej i bolš čymsia za časoŭ rasiejskich!...**" (Padčyrknieńnie—J. N) Hetyja skazy z hutarki ŭ „Palitycy" i nazoŭ samoj hutarki, vyjaśniajuć i jašče bolš dapaŭniajuć i ŭvypuklajuć niajasny, dy tryvožny nie adnamu nazoŭ knižki Jazepa Mackieviča— „Bunt rojstów"... **J. N.**



# Lis i sabaka

(*Bajka*)

Traf hetaki raz staŭsia,
što lis z sabakaju spatkaŭsia
—Sprava ładaka — bo jak ni jak —
źvier zły — sabaka.
Ale lis chitraść užyvaje,
pa pryvitańni pačynaje
vychvalvać viernaść ciućki:
—„Bratok ty moj milutki,
haspadaru tak vierna służyš,
i jak ty vytryvać tak zdužyš,
za hołu kość, ci za skarynku chleba,
na vicht taki sabačaha zdaroŭja treba, —
kab ja tak byŭ zdaroŭ,
prymi spahadnaść maich słoŭ...
Bratok, adnak ja času volnaha nia maju" —
i šapatkom ŭ vucho sabaccy kaža jon:
—„Da kuma-voŭka ja na chreśbiny śpiašaju,
a tak-by dalej hutarku pryjemnuju viali.
Sustreniemsia druhi raz mo' kali...
— Pakul što budź zdaroŭ, bratok!
Pakłon dla imaści tvaje, małych dziatok
pašanu ščyruju addaj,
joj łapki pulchnyja całuju. —
O, bracie, vier da vašaje radni
ja vietlivaść vialiku čuju".
I tut sabaku ŭ pysk liznuŭ,
dy drała ŭ les — u im valniej dychnuŭ.
Choć ledź adsopsia jon ad śpiechu,
—„Pahany vyradak" — sabie ŭ paciechu
toj lis ciapier užo kazaŭ:
—„To ščaście maju ja, što hety had
ad słoŭ maich zdurnieŭ i nie brachaŭ,
bo jnakš, dyk byŭ-by pałaŭničy, z mianie rad".

1938. *Jazep Vilkoŭščyk.*

**Ужо прыгатаўляем прэміі, якія будуць разлёсаваны між тых падпішчыкаў, каторыя аплацяць акуратна падпіску за „ШЛЯХ МОЛАДЗІ" на 1938 г. у суме 2 зл. і 50 гр.**

## ПЕРШАЙ ПРЭМІЯЙ БУДЗЕ РАДЫЁАПАРАТ.

**Хто яшчэ падпіскі за 1938 г. не аплаціў, няхай зробіць гэта ў найбліжэйшым часе.**

Dr. Jadviha i Stanisłaŭ Hrynkievičy

4)[1]

# Umovy i zahady nieabchodnyja dla zdaroŭja

## Vopratka—abutak—chuście.

Meta vopratki *padvojnaja* — baranić cieła ad choładu j niehadzi a druhaja, sama ŭ sabie moža mienš važnaja, za toje časta jana jhraje bolšuju rol jak pieršaja, asabliva ŭ žančynaŭ, heta]„kab *pryhažej* vyhladać."

Kolkaść i jakaść vopratki zaležyć ad roznych umovaŭ, ad patrebaŭ čałavieka, adčaści ad pryvyčki. Najlepšaju vopratkaju budzie takaja, jakaja budzie lohkaju, adnačasna budzie baranić ad choładu j niehadzi. Vopratka pavinna być lohkaju, pravieŭnaju, kab cieła mahło cieraz jaje paravać, kab była loznaju. Vohkaść cieła pry ščylnych, nieprapuskajučych mataryjałach spahadaje razvoju bakteryjaŭ, a tyja vyklikajuć roznyja chvaroby skury j spryčyniajecca hetkaja vopratka da taho, što lohka ŭ joj prastudzicca. Vopratka nie pavinna mulać cieła, ściskać i zaminać rucham.

Toje samaje možna skazać i ab *zimovaj* vopratcy. Ciažkaja vopratka zaminaje ŭ pracy i zabiraje zašmat enerhii čałavieku, patrebnaje dziela raboty.

**Abutak** maje tak sama vialiki ŭpłyŭ na zdaroŭje. Kiepskija kamašy ci čaraviki deformujuć stupieni, vyklikajučy h. zv. ***płoskija stupieni,*** i vykručyvajučy ahułam nohi, zaminajuć paźniej svabodnaj j peŭnaj chadźbie. Lišnie vysokija abcasy j vuzkija naski robiać toje, što čałaviek kiepska trymajecca, vykryŭlajuć jany chrybietnicu, dajučy adnačasna boli ciahlicaŭ a na't i inšych unutranych orhanaŭ.

Abutak pavinien być lohki, lozny, adnak nie zavialiki, z miakkaje skury, kab nia mulaŭ nohaŭ, kab nia vyklikaŭ mazaloŭ i nie adparyvaŭ. Ciesnyja čaraviki nikomu nia buduć miłyja, nohi ŭ ich chutka mučajucca j balać. Asabliva treba źviarnuć uva-

## Z biełaruskaha žyćcia

**Sud nad „Bieł. Krynicaj“ adłožany.** 3.III sioł. u Vilenskim Ak. Sudzie mieła razhladacca sprava apošniaha spynieńnia „Biełaruskaj Krynicy“. Na žadańnie adnak abaroncy — adv. B. Olechnoviča — Sud spravu hetu adłažyŭ, dziela dałučeńnia ŭsich papiarednich prysudaŭ na „Bieł. Krynicu“.

**Ahulny schod T-va „Bieł. Kat. Vydaviectva“** adbyŭsia 20.II. Paśla spravazdačy ŭradu adbylisia vybary. Staršynioj Tavarystva vybrany i na dalej Ks. Ad. Stankievič. Schod vyjaviŭ pažadańnie, kab natužyć usie siły dziela dalejšaha raźvićcia na biełaruskaj vydavieckaj nivie.

**M. Zabejda** apošnim časam abjaždžaŭ niekatoryja pavietavyja harady našaha kraju (Vaŭkavysk, Słonim, Baranavičy, Navahradak, Nieśviž), u jakich vystupaŭ z kancertam, u skład jakoha ŭvachodzili i biełaruskija pieśni.

**P. Siarhiejevič, viedamy biełaruski mastak-malar,** u minułym tydni vyjechaŭ na niekatory čas u Rym. Meta padarožy — studyi nad mastactvam.

**Ahulny schod Hurtka Pryjacielaŭ Biełaruskich Skaŭtaŭ.** Urad Hurtka Pryjacielaŭ Biełaruskich Skaŭtaŭ u Vilni sklikaje na dzień 13-ha sakavika 1938 h. ahulny hadavy schod Hurtka. Pieršy termin pačatku schodu hadz.: 17, a druhi hadz. 17 min. 30. Schod adbudziecca ŭ pamieščańni Biełaruskaj Himnazii (Daminikanskaja 3/5). Prysutnaść siabroŭ abaviazkavaja.

**Biełaruskaja viečaryna ŭ Varšavie.** Biełaruskaje Kulturnaje T-va ŭ Varšavie 26 lutaha ładziła viečarynu—bal. Viečaryna ŭdałasia. Prysutnych było kala 400 asob.

## Дзіўнае дамаганьне

Украінская „Вість“ (кн. 1 за 1938 г.), у сувязі з вершам М. Машары надрукаваным у „Шляху Моладзі“, у якім між іншым было сказана:

„Пасуньцеся, суседзі нашы, крышку,
агульны стол багаты — і для ўсіх;
ня вырвем з рук нікому з стравай лыжку,
прыдбаем толькі скарбаў вам сваіх“...

дамагаецца ад М. Машары і „Шляху Моладзі“ больш выразнасьці, бо кажа суседзяў ёсьць многа... Дзіўнае сапраўды дамаганьне і незразумеласьць... — Ці-ж-бы „Вість“ думала, што яна сядзіць пры агульным стале... На наш пагляд, і Беларусы і Украінцы не сядзяць пры агульным стале і нажаль ня прыносяць у агульную скарбніцу культуры, аб якой гаворыць у тым-жа вершы Машара, гэтулькі цэннасьцяў, колькі маглі-б прыносіць пры лепшых абставінах...

**„Pączki w bursie“.** Pad takim nazovam u niadzielu 27.II sioleta Vilenskaja Radyjostancyja pieradavała aŭdycyju z „Bursy Ziem Północno-Wschodnich“, jakaja raniej była biełaruskaj i dzie ciapier žyvie badaj vykłučna biełaruskaja vučnioŭskaja moładź. Usia aŭdycyja była pieradavana papolsku, z damieškaj jazykovaj miašanki stylu viedamaj Ciotki Albinovaj, pry tym vyražała jana vialikuju ŭdziačnaść p. vajavodzie Bociańskamu, što jon vielmi dobra hetaj bursaj apiakujecca... Jakoje ŭražańnie vyklikała aŭdycyja ŭ biełarusaŭ, hetaha nia budziem pisać..., adciemim adno, što vyklikała jana niepryjemnyja vodhuki navat u polskaj presie. I tak, „Kurjer Powszechny“ ŭ № 57 z 28.II.38, a za im i „Słowo“ (1.III) nazvali aŭdycyju vielmi niaŭdałaj i zajavili, što stałasia heta dziela taho, „što zamiest metaŭ čysta mastackich, byli vysunuty na pieršy plan kadziła i marały“.

*Z vydavieckaj nivy*

J a n k a B y l i n a — **Vybary staršyni** Viaskovaja trahi-kamedyja ŭ 3-ch dziejach iz časoŭ carskich. Vydańnie 2-je. Bač. 15. Farmat 8. Cana 40 hr.

Sceničny hety tvor, u jakim žyva pradstaŭleny kandydaty na vałasnych staršyniaŭ i vybary ich, vielmi dobra nadajecca na viaskovuju scenu. Toje što knižka heta vyjšła ŭžo ŭ druhim vydańni śviedčyć ab jaje papularnaści.

Da druhoha adnak vydańnia jaje musim zrabić zaściarohi da novatvoraŭ, jakija ŭvioŭ u joj vydaviec (viedamy reformatar bieł. hramatyki i pravapisu) u movu i pravapis, jak napr.: adzinancać zamiest adzinaccać, nalećcie, što maje aznačać nastupny hod, Vojstraj zamiest Vostraj, siadnia zamiest siańnia, słahońnia, jinšym zamiest inšym, jim—im, tvajim—tvaim, jich—ich i h. d.

U inšych narodaŭ znaŭcy movy pracujuć nad tym, kab litaraturnaja mova była zhodnaja z sapraŭdnym ducham narodnaj movy, a pravapis kab byŭ prosty, zrazumieły i dastupny dla ŭsich. Tymčasam novatvory ŭ „Vyb. Staršyni“ vielmi padazronyja.

**Novy lemantar dla biełaruskich dzietak.** Lemantar hety byŭ vydany jašče ŭ 1931 h. Biełaruskim Vydavieckim Tavarystvam, ale dahetul lažaŭ na składzie. Ciapier, kali patreba biełaruskich lemantaroŭ vielmi adčuvajecca, a lemantar „Zasieŭki“ skanfiskavany, vydaŭcy puścil, jaho ŭ prodaž. Lemantar nadrukavany łacinkaj. Maje 32 bačyny. Cana 20 hr. Vypisvać možna z biełaruskich kniharniaŭ u Vilni. **Z. B.**

## Na dapamahovy fond biełaruskaj moładzi pry „Šl. Mł.“

*achviaravali:*

Jan Šychaviecki 5 zł., Stanisłaŭ Marcinkievič 75 hr., A. Naratovič 1 zł., Mik. Nikanor 50 hr., Symon Dańko 12 złotaŭ.

Usim achviaradaŭcam ščyra dziakujem.

**Red. Kal. „Šlachu Moładzi“.**

hu, kab dzieci mieli dobry abutak, u ich najlahčej j najchutčej deformujucca (vykryŭlajucca) nohi, a papravić henuju biadu paźniej vielmi nia lohka.

Pančochi, škarpetki ci hanučki treba časta pieramianiać i nohi trymać u čyścinie. Chto nia rupicca ab čyścini noh, u taho jany paciejuć i adparyvajucca, ad takoha čałavieka zdalok užo śmiardzić miešanym pacham hniłych jajec, hniłoha syru i zdochšaha pacuka. Prysutnaść takoha čałavieka ŭ tavarystvie pamiž ludźmi, časta zusim niemahčymaja.

Pančochi j škarpetki pavinny mieć adpaviednuju formu, matarjał i koler.

Kali jdzie ab formu, dyk treba nam pomnić, što narmalnaja stupień nia maje vyhladu trykutnika, a što jejnaja daŭhaja voś idzie ad piaty da vialikaha palca, a inšyja čatyry palcy lozna razychodziacca ad henaje vasi ŭ staranu. Dyk uvažać, kab pančochi, škarpetki j abutak sami mieli henuju pravilnuju formu. Pry henych tolki zaściarohach naha budzie dobra stajać na ziamli. Biaz hetaha na nazie chutka buduć mazali, nohci ŭrastajuć u cieła, a zhetul byvajuć boli. Matarjał, z jakoha robiacca pančochi, pavinien być pravieŭny j ciopły j adnačasna miakki.

Koler pančochaŭ najlepš kali budzie jasny, lahčej tady na ich vidać hraź i tamu chutčej ich čałaviek pieramianiaje. Pahlad, što čornyja škarpetki nia tak chutka peckajucca, pamyłkovy. Jany peckajucca adnolkava, tolki na ich hraź mienš vidać.

**Chuście.** Chuście (bializna) najlepš rabić z bavoŭny i svajho pałatna. Lepš kali pałatno budzie nia nadta hustoje. U hustym pałatnie čałaviek chutčej spacieje j lahčej prastudzicca.

### Vyparažnieńni.

Vielmi važnaju spravaju jość rehularnyja vyparažnieńni stravatraŭčaha aparatu j nyrak. **Zapiačeńni** (zatrymańni) nadta časta byvajuć pryčynaju bo-

# ШТО ЧУВАЦЬ

— У канцы лютага сёлета прыяжджаў у **Польшч** на паляваньне ў Белавежы **нямецкі** фэльдмаршал Герінг. Газэты пішуць, што апрача паляваньня Герінг меў з польскімі дыпляматамі і гутаркі палітычныя адносна **Румыніі і Чэхаславаччыны,** дзе **Нямеччына** хоча расшырыць свае ўплывы. — У Кракаве гэтымі днямі адбыўся кангрэс „СтроньніцтваЛюдовага,“які выявіў, што вялікая гэтая польская сялянская партыя і далей знаходзіцца ў апазыцыі да сучаснага ўраду.

— У **Маскве** 2.III.38 пачаўся чарговы вялікі палітычны працэс старых заслужаных бальшавікоў: Бухарына, Рыкава, Ягады, Шаранговіча і інш., якім закідваюць, што яны быццам хацелі адарваць ад СССР Украіну, Беларусь, Армэнію, Азарбэйджан і іншыя краіны, а таксама, што хацелі вярнуць капіталістычны лад і атрулі ведамага пісьменьніка Горкага, і камісараў Куйбышэва і Менжынскага. Камуністычныя савецкія газэты для ўсіх абвінавачаных загадзя дамагаюцца кары сьмерці.

— **Шушніг** хоць увёў на жаданьне **Гітлера** ў урад **Аўстрыі** трох міністраў гітлераўцаў, заявіў аднак, што будзе бараніць незалежнасьці Аўстрыі. Супроць злучэньня Аўстрыі з Нямеччынай вострa так-жа выступаюць аўстрыяцкія працоўныя масы.

— Гутаркі аб згодзе між **Італіяй і Англіяй** прычыніліся пакульшто да таго, што міністр загр. спраў Англіі Ідэн, які не хацеў ісьці на ўступкі Італіі, падаўся ў адстаўку, яго-ж месца заняў лёрд Галіфакс, каторы з прэм'ерам Чэмбэрленам гатовы пайсьці на некаторыя ўступкі Італіі, каб гэтым здабыць спакой **у Палестыне,** дзе італьянцы бунтуюць Арабаў. Італія быццам незадаволена з палітыкі Гітлера адносна Аўстрыі і гэта, а перадусім цяжкае матарыяльнае палажэняне італьянцаў, панукае іх да наладжаньня добрых адносінаў з Англіяй.

— **Францыя,** адносіны каторай з Італіяй вельмі напружаныя, крыху ўстрывожана англійска-італіянскімі гутаркамі, аднак англійскі прэм'ер заявіў, што гутаркі гэтыя не адабўюцца ад'емна на добрых саюзьніцкіх англійска-францускіх адносінах. Францускі ўрад, як-бы ў адказ на палітыку Гітлера ў справе Аўстрыі і на ягоныя дамаганьні калёніяў, пастанавіў асыгнаваць на ўваружэньне больш 3 міліярдаў франкаў. Узмагла ўваружэньне так-жа Англія і Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі.

— У **Румыніі** кароль зьмяніў канстытуцыю і пасьля загадаў зрабіць агульнае народнае адкрытае над ёй галасаваньне, каторае канстытуцыю гэтую прыняло аграмаднай большасьцю галасоў. Новая канстытуцыя ўзмацняе перадусім становішча самога караля і вядзе Румынію ў рады гаспадарстваў таталістычных.

— Тэруэль у **Гішпаніі** забралі йзноў паўстанцы, большых аднак зьменаў на фронце ня відаць.

— На **Далёкім Усходзе** далей йдзе заўзятая барацьба. Кітайскія самалёты пачалі рабіць налёты на японскія месты, пры тым Кітайцы ўзмацнілі свае партызанскія аддзелы, каторыя забілі ўжо 15.000 японцаў і адабралі ад іх 36 паветаў. У адказ на гэта Японцы зрабілі агульную мабілізацыю і завастрылі свае атакі, асабліва ў правінцыі Шансі, дзе прымусілі Кітайцаў далей адступаць. Пры гэтым Японія асыгнавала на вайну з Кітаем 4.850,000,000 енаў (японскія грошы).

— У **Літве** ў хуткім часе мае быць уведзена ў жыцьцё новая канстытуцыя.

— У **Эстоніі** адбыліся выбары ў парлямант. Большасьць мандатаў здабыла правіца.

— У сувязі з англійска-італьянскімі перагаворамі некаторыя газэты пішуць, што прэм'ер Чэмбэрлен імкнецца да паразуменьня Англіі, Францыі, Нямеччыны і Італіі. Адасобненым-жа зусім будзе СССР.

*jn.*

# Z vilenskaje chroniki

**Našyja švini, husi, košyki i ziołki jeduć zahranicu.** Statystyka padaje, što za m-c śniežań 1937 h. vyvieziena z Vilenščyny ŭ Niamieččynu 275 tysiač kilahramaŭ šviniej, a ŭ Aŭstryju 33 tys. klh. Aprača taho niadaŭna z Vilenskaha vajav. vyvieziena ŭ Uschod. Prusiju 5 tysiač husiej. Z Vilejskaha pavietu jeduć zahranicu (ŭ Halandyju, Švecyju) vyraby kašykarskija. Za ŭvieś-ža 1937 h. vyvieziena z našaha kraju na paŭ milijona złotaŭ roznych lekarskich ziołak.

**„Kaziuk“.** 4.III u Vilni adbyŭsia vialiki tradycyjny kirmaš papularna nazyvany „Kaziukom”, na jaki pryjaždžali ekskursii navat z dalokich miascoŭ Polščy.

laŭ hałavy, mienšaje achvoty da pracy, razdražlivaści j ahułam mienšaje adpornaści arhanizmu. Zapiačeńnie daŭžej tryvajučaje dziela taho budzie niebiaśpiečnym, što kroŭ tady zastojvajecca j nie adžyŭlaje jak śled nutranych tazavych orhanaŭ a pobač z hetym hnilnyja pradukty ŭ toŭstaj kišcy mohuć łučyć u kroŭ, vyklikajučy ahulnaje atručeńnie.

Jak heta z usimi najvažniejšymi spravami ŭ arhaniźmie zdajecca, što voš biada, što treba budzie šmat času j enerhii, kab dahladzieć paradku, a sapraŭdy, dyk jano ŭsieńka naładžana vielmi dobra i tolki treba krychu pamahčy. Dyk voš i tutaka — jadučy adpaviednyja stravy, a mianoŭna — bolš jarynaŭ, fruktaŭ, čornaha chleba, a dalej — normalna žyvučy, značycca pracujučy, čałaviek zusim nia dumajučy zrabiŭ usio, kab być zdarovym. Inšyja, što chvarejuć na biazupynnyja zapiačeńni, pryjmajuć nadta časta pračyščajučyja, leki, jak senes, rycynu, pryvykajuć da ich tak, što biaz lekaŭ ničoha nia vychodzić, a nie padumajuć, što treba bolš chadzić i parupicca ab patrebnuju dyjetu.

Dyk u ludziej z nachiłam da zapiačeńnia, a heta najčaściej miecimuć žančyny, treba zvažać na ježu, kab u joj było bolš kisłaha małaka, čornaha chleba, jarynaŭ.

Vielmi važna ŭ henaj spravie, kab pryvučycca vyparažniać kiški ŭ adnych hadzinach. Pryvučać treba da taho ŭžo małych dziaciej.

Kali jdzie ab *maču*, dyk narmalna niama z jeju nijakich zaminaŭ. Tyja, što nia chočučy začasta chadzić z mačoju, mienš pjuć vady ci inšych redkich stravaŭ, robiać nierazumna. Dziakujučy vadzie arhanizm moža dobra ačyścicca. Kali-ž užo sprava ab tym, kab nie ŭstavać začasta ŭnačy, dyk nia treba tolki pierad snom šmat pić, a za toje kab było bolš vady ŭ praciahu dnia.

## З КРАЮ

### Беларускі народ знае свае правы і абавязкі

*(З прычыны зьезду ОЗоНу ў Стоўпцах).*

У канцы мінулага году ў Стоўпцах, бяз шырэйшага зацікаўленьня, адбыўся паветавы зьезд наступніка Б. Б. — ОЗоНу.

На зьезьдзе гэтым між іншым вельмі цікава „выясьняў“ абшарнік Крупскі — старшыня зьезду ОЗоНу („Обозу Зьедночэня Народовэго“) — справу зямельнае рэформы. Ён казаў, што зямельная рэформа, замест палёгкі, прынясе йшчэ большае абядненьне сялянскіх масаў, што толькі пагоршыць і так незавіднае іх палажэньне і што нават масы спролетарызуе... Адным словам, на рэформу, паводле яго, трэба махнуць рукою; мала таго, трэба нават перастаць думаць аб ёй, як аб рэчы нездаровай і небясьпечнай. — Падыход, як бачым, вельмі характэрны і цікавы...

Гаварылася на гэтым зьездзе і аб „малодшых братох“ — Беларусах. А як-жа! Прыпомнілі нават, што гэтыя „малодшыя браты(!)“ маюць вельмі старую(!) культуру, што яны здабыліся на такі твор, як слаўны літоўскі (беларускі) статут і г. д. Гаварылі аб патрэбе супрацоўніцтва з „старэйшымі братамі“, аб падпарадкаваньні сваіх імкненьняў пад іх патрэбы, аб канешнасьці прыняцьця вышэйшае польскае культуры, — а старэйшыя браты за ўсё гэта будуць старацца падняць эканамічны ровень, палепшыць матарыяльнае палажэньне бел. сялянства. — Пакуль гэтак гаварылі, усё было шыта крыта, але пасьля, як пачалі выясьняць, як мае праводзіцца гэтае „палепшаньне долі“, дык загаварылі аб „пякучай патрэбе“ выпісаньня з Пазнаншчыны купцоў і „страганяжы“, якія выціснулі-б Жыдоў і занялі іх месца. І тут ужо нашыя паны забыліся аб патрэбах „малодшых братоў“, аб патрэбе вялікіх кадраў мясцовае вясковае і мястэчкавае інтэлігенцыі, якая пры падмозе з розных „фундушаў“ ня горш пазнаняк аў патра піла-б вясьці гандаль і паляпшаць быт. Тут ужо зусім вылезла шыла з мяшка і ўсё выясьніла...

І дзіўным, калі не сказаць больш, пасьля ўсяго гэтага быў голас сьвяшч. В. Багаткевіча, які ня ведама... чаму пачуўся на сілах прамаўляць ад імя Беларусаў (ніхто яго да гэтага не ўпаважніваў!), запэўняючы кіраўнікоў зьезду, што беларусы стаўпецкага павету ўсе як адзін пойдуць у ОЗН, бо бачаць у ім апякуна і абаронцу.

Паважна разважаць гэткую прамову, бязумоўна, няма патрэбы, бо Беларускі Народ, які знае свае свае правы і абавязкі над такімі прамовамі, як сьвяшч. Багаткевіча, перайшоў ужо даўно да парадку дзеннага. „Здабычаў“-жа такіх, як „прадстаўнік“ Багаткевіч, не пазайздруе ОЗоНу ніхто.

*Прысутны.*

### З жыцьця нашае моладзі

*Сенкевічы, Косаўскі пав.* Моладзь нашая, ня маючы сваіх культурна-асьветных арганізацыяў, пачала блудзіць. Польскія арганізацыі, якія ёсьць у нас, зарадзіць гэтаму ня могуць. І так п'янства і бойкі пачалі ў нас бываць узноў часта, асабліва сярод моладзі 18-20 гадоў, якая гэтак хоча паказаць, што яна дарасла... З гэтай прычыны, моладзь нашая паставіла сябе на апошнім месцы ў цэлай ваколіцы, бо ў суседніх вёсках гэтага няма. А калісь нашыя Сенкевічы былі першымі ў цэлай ваколіцы, у складаньні дэклярацыяў на беларускую школу, ладжаньні беларускіх прадстаўленьняў і агулам у культурнай працы.

Вось-жа, маладыя браты, не марнуйма дарма грошай, здароўя і сілы на п'янстве і бойках, а выпісвайма свае беларускія часапісы і чытаючы іх вучэмся працаваць на карысьць сабе і свае Бацькаўшчыны. Нашыя браты з другіх паветаў працуюць у такіх самых варунках як і нашыя, дык ня будзьма горшымі ад іх і мы.

*Старэйшы.*

## Usiačyna

**Voŭk u škole.** U v. Knaje na Paleśsi źjaviŭsia voŭk, jaki hnaŭsia za sabakam. Bačačy vaŭka ŭ vioscy, chłopcy pavybiehali z chat i pačali jaho bić, a vučyciel vybieh z škoły z strelbaj i padstreliŭ jaho. Ranieny voŭk uskočyŭ u harodčyk kala škoły, a paśla praz adčynienyja dźviery ŭ školu, dzie vyklikaŭ siarod dziaciej vialiki pierapałoch. U škole adnak ranieny voŭk byŭ dabity.

**Kamunikacyja praz Paŭnočny Polus.** Praf. O. Šmidt telehrafična pierasłaŭ z ledakołu, na jakim viazuć vyratavanuju ekspedycyju Papanina, u hazetu „Известія“ artykuł, u katorym havoračy ab vialikich navukovych zdabyčach ekspedycyi „Paŭnočny Polus“, ćvierdzić, što novyja doślедy dakazyvajuć mahčymaść sarhanizavańnia stałaje kamunikacyi praz pustynnyja maroznyja paŭnočnyja dali i nad Paŭnočnym Polusam.

**Jak doŭha žyvuć źviary, ptuški i muchi.** Matyl žyvie ad 2 dzion da 2 miesiacaŭ, mucha 4 miesiacy, kamar—6 mies., ščyhoł da 18 hadoŭ, zajac, aviečka da 10 hadoŭ, sałaviej—12 h., voŭk—15 h., koń i arol—30 h., aleń, viarblud—40 h., sabaka, vol—25 h., leŭ—50 h., kruk—80 h., ščupak, karp, słon, papuhaj, čarapacha da 100 hod.

## Паштовая скрынка

М. В. – наму ў Латвіі. Часапісы выслалі. Ад Дабучынца не атрымалі нічога. Просім падаць нам дакладны яго адрыс. Прывітаньне!

Dr. M. Ščyra dziakujem za viasiołaje piśmo. Mataryjały vykarystajem. Na abiacanaje čakajem. Pryvitańnie!

П. Граніту: Вершы атрымалі, дзякуем, па магчымасьці будзем выкарыстываць. Прывітаньне!

Януку Т.: Вершы слабаватыя. Талент аднак маеце, дык больш працуйце над сабой і пішыце.

H. Vincukievič u: Karespandencyju atrymali, dziakujem. Nadrukujem u nastupnych numaroch. Prosim niezabyvać i na dalej.

Старэйшаму: Карэспандэнцыю, як бачыце, друкуем, напішэце, што чуваць у іншых кутках вашага павету.

Я. Чорнаму: Вершы слабаватыя, але будзем у меру магчымасьці папраўляць і што ўдасца надрукуем. Матар'ялы прызначаныя для „Хр. Д.“ і „Зоркі“ перадалі.

А. Жуку: Атрымалі ўсё, адказ будзе пісьмом.

Герлаўскаму А.: Патрэбнае Вам песьні нажаль ня зможам уладжыць. На гэта трэба шукаць „майстры“ на месцы.

А. Łарасіе: Hrošy atrymali. „Šlach Moładzi vysyłajem. Damahajciesia na pošcie.

*„Шлях Моладзі“ рэдагуе Рэдакцыйная Калегія. Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ“ выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар картатэкі „przekazu rozrachunkowego“ 59.

Выдавец: „БЕЛПРЭС“. Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.